Год II Серада, 25 студня 1922 г. № 17 (26)

# РАНІЦА

штодзенная грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

Цана нумару 20 марак.
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.



*Вільня, 25 Студня 1922 г.*

Аб тым, што робіцца ў Саўдэпіі кожны ведае. Карэспандэнты загранічных газэт ня маюць слоў для апісаньня таго жаху, якому яны з'явіліся жывымі сьведкамі. Голад пашырыўся, захапіў новыя вялікія раёны. Дзесяткі тысячаў людзей ў страшэных муках у медлянай агоніі чакаюць сьмерці, трацяць розум, чалавечыя інстыкты, пэрэварачываюцца ў дзікіх звяроў... Зарэгістраваны выпадкі людаедства, маткі ядуць сваіх дзяцей! Намёршых крадуць, вырываюць цела з магіл і пажыраюць!

У месьце з голадам пануюць і заразныя хваробы. Тыфус захапіў амаль ня ўсю Саўдэпію, халера, сіфіліс, сухоты—косяць людзей як траву.. Здаровых людзей няма. Савецкі „рай“ даканаў ўсіх... І ўсе, хто толькі мае хоць якую мажэбнасьць уцячы, бягуць па ўсім шляхам, па ўсім кірункам, ратуючы свае жіцьцё, бягуць і... разносяць па ўсяму сьвету заразу, эпідэмій...

Савецкая ўласьць—як гэта ўжо даказана сьведкамі—вязе ўцекачоў „ў нятопляных, зімных, ўшывых, вагонах“, гдзе здаровыя жывуць бок а бок з хворымі; трупы памёршых ад тыфуса лежаць у вагонах па цэлым дням, пакуль іх ня вікінуць. У дарозе ўцекачом не даюць нічога цёплага, нават кіпятку. Галодныя і халодныя, замучаныя жыцьцём у савецкім „раі“ і доўгай дарогай пры самых кепскі матэрыяльных варунках, без цёплага адзеньня, ўцекачы пры граніцы выкідываюцца з вагонаў проста на поле і чакаюць там, пакуль польскія ўласьці ня падбяруць іх і ня адправяць у адзін з этапных пунктаў...

Кепска ўцекачом, але кепска і суседнім з Саўдэпіяй дзяржавам, якія павінны прымаць да сябе цэлую армію галодных, абнішчалых, змучаных, хворых, заразлівых і нешчасных людзей...

Трэба ня толькі, даць прытулак, накарміць галодных, адзець голых і лячыць хворых, трэба яшчэ стварыць такія варункі рэпатрыацыі, каб тыфозная эпідэмія не запанавала і ў нас, каб уцекачы ня разняслі заразы па ўсей тэрыторыі Польшчы і Сярэдняй Літвы.

Праўда для ўцекачоў ўжо абарудаваны санітарныя этапы і карантыны. Але яны ня ўсілах справіцца з тымі дзесяткамі тысячаў ўцекачоў, якіх Саўдэпія выкідывае з свайго абшару.

Напрыклад, этапны пункт у Баранавічах—як аб гэтым ужо не адзін раз пісалі—перапоўнены хворымі. Урачы завалены працай. На кожнага з' іх прыходзіцца амаль ня 300 цяжка хворых. Ні адзін урач ня вытрымае доўгі час такой цяжкай, катаржнай працы!

І гэта не гледзячы на тое, што чразвычайная камісыя па барацьбе з эпідэміямі ў працягу апошняга году абарудавала дзесяткі лазарэтаў у паветах, каб заградзіць эпідэміям дарогу ў Вільню. Але гэтага мала. Уцекачы усё-ж прасачываюцца і праз карантыны, і этапы і праз бальніцы, прасачываюцца і нясуць з сабой тыфозную заразу. Угледзець за усімі прыезжаючымі з Саўдэпіі, абезўрэдзіць іх—вельмі ня лёгкае заданьне, на якое трэбуецца вялікая сума грошаў, патрэбны значны лік медзіцынскага пэрсаналю і стварэньня такіх варункаў рэпатрыацыі, пры якіх разнесеныя заразы з'явіліся бы не мажэбнымі...

Праца вельмі адказная, вельмі тэрміновая. на якую мы не павінны шкадаваць ні сродкаў, ні энэргіі, бо уселякая маруда, нерашымасьць будзе каштаваць нам вельмі дарага...

Праўда, мы можам канстатыраваць, што ў гэтым напрамку праца ужо ідзе, і ідзе вельмі інтэнсыўна: у самым Вільні, апроч ужо істнуючай бальніцы для заразных у Звярынцу, прыступлена да рэмонту легкіх нямецкіх баракаў, потым у недалёкай будучыне. як кажуць, будуць абарудаваны бальніцы у Дзісьне і Клецку. Але і гэтага яшчэ будзе мала. Трэба, каб усё грамадзянства агульнымі высілкамі дапамагло ў гэтай вялікай, і сьвятой справе. Ратуючы уцекачоў—мы будзем ратаваць сябе. Гэтага ніколі ня трэба забываць.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

ЛОДЗЬ 24. I. (А. В.). У сьвязі з загранічнымі заказамі на товары, лодзінскія фабрыкі Схэйбльра, Познанскіх, Грохмана і Грэера будуць працаваць замест 3 днёў ў тыдні 6.

ПАРЫЖ 24. I. (А. В.). Па прычыне сьмерці Св. Айца, вызначаны на дзень 20 гэтага месяца дыпламатычны абед на Елісейскім пляцы, будзе адцягнутым на далей.

БЭРЛІН 24. I. (А. В.). На сабраньні працаўнікоў электрычнай прамысловасьці ў Бэрліну, прэзыдэнт габінэту Лёэбэ прэдсказаў аб блізкім распадку габінэту Вірта. Выказаўшы неабхадзімасьць залатвеньня справы аб падатковым кампрамісу Лёэбэ, адзначыў, што сацыялісты зрабілі адхіленьня ў бок. Калі кампраміс з Цэнтрам, альбо з дэмакратамі ня дойдзе да згоды, габінэт Вірта распадзецца.

МАСКВА 24. I. (А. В.). Памёр тут генэрал Парскі, быўшы камандзір паўночнага фронту ў час вайны з немцамі. Генэрал Парскі першы з расейскіх генэралаў перайшоў на службу да бальшавікаў, і занімаў аж да сьмерці адпаведнае становішча ў чырвонай арміі.

МАСКВА 24. I. (А. В.). Адкрыта тут гаспадарсцьвенная цэнтральная таварoвая гэльда.

РЫМ 24. I. (А. В.). Духоўніца сьвятога Айца сёньня будзе ўскрыта і разгледжана. Як праўданадобна ў ім гаварылася аб справе пахаваньня і аб мейсцы гдзе пахаваць.

БЭРЛІН 24. 1. (А. В. Забастоўка жалезна-дарожных служачых у Саксоніі шырыцца на далей. У сьвязі з гэтай забастоўкай бражэньне сярод працаўнікоў расьце.

МАСКВА 24. 1. (А. В.) „Извѣстія“ паведамляюць, што ўраджай на хлапчатую паперу ў Туркестану ў гэтым годзе вынесе 300,000 пудоў. У годзе 1915 ураджай быў 1,300,000 пуд.

ЛЬВОЎ 24. 1. (А. В.) Арганізацыя кабет у Малай Польшчы выслала да міністра скарбу ліст, у якім паведамляе: што праз кабет робіцца збор золата і срэбра, што будзе асновай падтрымленьня польскай валюты.

ТОКІО 24. 1. (А. В.) Маршалак Іофрэ прыбыў да Іокагамы, гдзе люднасьцью быў спатканы з вялікім энтузіазмам.

КАТАВІЦЫ. 24. 1. (А. В.) Сьмета ў справе валюты на Шлёнску ўжо падпісана.

ЛЬВОЎ 24. 1. (А. В.) Паведамляюць з Украіны, што праваберaговая Украіна поўна бандамі з люднасьці, якія і робяць партызанскія аддзелы.

На жалезна-дарожнай лініі Знаменка, Бобрынская частыя напады на цягнікі. Камуністаў грабяць і б'юць, так сама і жыдоў. Неўраджай павелічвае лік грабяжоў, якія зьяўляюцца срэдствам здабыць харчы для жыцьця.

## Весткі з Варшавы.

У сьвязі з сьмерцью Папы-святога Айца кардынал Каковскі, як прадстаўнік святога калегіўма 23 студня ад'ехаў да Рыма.

23 студня рана памёр у Варшаве пасол Адольф Свіда.

## Да сьмерці Святога Айца.

З Рыму паведамляюць: зараз жэ па атрыманьні весткі аб сьмерці св. Айца Бонамі павядаміў караля, ўрадавых ураднікаў і губэрнатараў калёніі і аддаў распараджэньне вывясіць траурныя штандары на ўсіх грамадзянскіх дамох.

Кардынал Сігі пасяліўся ў Ватыкане, як старшыня Канклава.

Кардынал дзекан Бакутэлі прыняў гаспадарку цэркоўнымі справамі.

Кандыдатамі на Папскі прастол з'яўляюца: Дэлэ, Маффі, Біслешы, Гаспарі, Ратті, Лафанейен і Помпіллі.

У цяперашні час калегія складаецца з 61 сябара, ў тым ліку 31 італьянец і 30 іншых нацыянальнасьцяў.

Хаўтуры адбудуцца 30 студня і ў той жэ дзень зьбярэцца Конклаў. Чакаюць, што Папай будзе італьянец.

## Навіны у тры радкі.

З Масквы пішуць; у канцэнтрацыйных лагерах не хватае мейсца. Дзеля гэтага, савецкі ўрад распарадзіўся звольніць з лагераў старыкоў, маючых балей як 50 гадоў і так сама і кабет, маючых дзяцей да 12 гадоў. (Он.)

